Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 11 7-13 ліпеня 1995 года ЦАНА 500 рублёў

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

- НАВІНЫ РЭГІЁНА. СЕНСАЦЫІ
- ПРАГРАМА TV НА ТЫДЗЕНЬ
- РЭКЛАМА

З пошты «Рэгіянальнай»

## Гібець у завані фармалізму і зводак мы не будзем

Шаноўная рэдакцыя!

Дзякуй за вашу газету, якую не так даўно стаў купляць у кіёску. Быў прыемна здзіўлены. «Рэгіянальная»— адно з нешматлікіх выданняў, якое абыходзіцца бездапамогі набіўшых аскоміну зводак і фармалізму. Разнастайная, кароткая і зразумелая інфармацыя— вось што сёння можа прыцягнуць чытача. Вы гэта і выкарыстоўваеце. Добра, што зразумелі людзей. Здаецца, вы будзеце мець поспех.

Усё гэта можа тлумачыцца, на мой погляд, і тым, што сярод заснавальнікаў выдання я не заўважыў раённых ці гарадскіх выканкомаў, якія часта вымушаюць мясцовыя газеты гібець у заванi фармалізму. Мне ніколі не было цікавым, колькі тон угнаенняў вывезена на палі на чацвертае студзеня у калгасе «Шлях» або колькі тон сена нарыхтавана на пятнаццатае ліпеня у саўгасе «Поступ». Гэта звычайная работа людзей. Я не адзіны ў сваіх інтарэсах. Упэўнены ў гэтым. Думаю, што нікому не цікава, колькі я нарэзаў за змену вінтоў. Я не крыўдую за гэта. Зразумела, калі раптам з-за недахвату кармоў ці ўгнаенняў пачнецца, не дай бог, памарак, або свінні пачнуць прыбаўляць у вазе па паўтары кілі на дзень— пра гэта напісаць трэба. Жадаю вам творчых поспехаў і пастаяннага пошуку цікавай інфармацыі.

*Міхась Харлап, Ашмяны, 27 чэрвеня*

*Ад рэдакцыі. Дзякуй чытачу за цёплыя словы. А найбольш за тое, што яго думкі аказаліся блізкімі нашым. Мы ніколі не збіраліся гібець, як трапна выказаўся чытач, у завані фармалізму і зводак. Наш новы чытач, якога сёння пасля паспяховай падпісной кампаніі пабольшала на дзве тысячы, не пашкадуе аб выбары на карысць «Рэгіянальнай газеты». Ва ўсякім разе, у нас усе падставы для гэтага ёсць— розныя па ўзросту, але аднолькава высокапрафесійныя журналісцкія кадры па ўсім рэгіёне, імкненне вынаходзіць тую інфармацыю, якая б магла зацікавіць чытача... Будуць нумары больш або менш удалыя, хібы, удачы, пралікі. Але мэта— з'яднанне жыхароў нашага краю вакол старонак «Рэгіянальнай»— з кожным яе нумарам будзе ўсё больш дасягальнай. Рэдакцыя ўдзячная за ўзаемаразуменне.*

На мяжы

## Уладзімір Міранoвіч страляе на «пяць»

*СМАРГОНЬ. Жылі мы, жылі паціху. І дажыліся да таго, што раптам узнікла мяжа між Беларуссю і Літвой. І даводзіцца ж ахоўваць яе беларускім пагранічнікам.*

Усё часцей сталі бачны ў Смаргоні іх зялёныя фуражкі. Хаця граніца ад нашага горада не зусім блізка, затое рыхтуюць заўтрашніх салдат-пагранічнікаў зусім паблізу — у вучэбным пагранатрадзе, якім камандуе палкоўнік Уладзімір Мікалаевіч Лігута.

З атрада ідуць на службу на граніцу роднай Беларусі памужнелыя, загартаваныя, падрыхтаваныя тэарэтычна, прыгожыя юнакі. А практычныя навыкі набудуць яны ў паўсядзённай службе.

Адзін з лепшых воінаўпагранічнікаў, малодшы сяржант Уладзімір Міранoвіч. У яго «пяцёрка» па стральбе, «пяцёрка» па службе ўвогуле.



*На здымку: сяржант Уладзімір Міранoвіч*
*Фота Міхася Разумніка.*

## Прасцеи выехаць за мяжу, чым з'ездзіць да бацькоў на радзіму

*МАЛАДЗЕЧНА-АСТРАВЕЦ. Напярэдадні 1 мая я атрымаў ад маёй маці дзве даведкі (на сябе і на жонку) з Гервяцкага сельсавета для атрымання пропуску ў Астравецкі раён, які, як вядома, аб'яўлены прыгранічнай зонай.*

Будучы законапаслухмяным грамадзянінам, я звярнуўся з гэтымі даведкамі ў пашпартны стол Маладзечанскага ГРАУС. Высветлілася, што патрэбныя дакументы прымаюцца толькі па аўторках, а пропускі выдаюцца толькі па пятніцах. Акрамя гэтага трэба тыдзень, на працягу якога «кампетэнтныя органы» высвятляць усё пра будучага «візіцёра». Цікава, толькі «што» і «навошта»? Тое, што маёй маці ідзе 82-гі год нікога не зацікавіла.

Хацеў бы адзначыць, што мая работа часта звязана з камандзіроўкамі і таму я не магу з'яўляцца ў пашпартны стол менавіта па пятніцах і ў рабочы час.

Аднак, усё ж мне ўдалося неяк вырвацца і забраць жаданы пропускі ў Астравецкі раён. Але і тут не абышлося без сюрпрызаў: абедзьве мае дачкі запісаны толькі ў жончын пропуск. А калі, напрыклад, я збяруся ехаць да маці з адной старэйшай дачкой, дык што, яе ссадзяць з цягніка ці аўтобуса толькі з-за таго, што ў маім пропуску нейкі бюракрат паставіў прочырк?

І яшчэ. Як зразумець тое, што ў пропуску запісана: дазваляецца ўезд і пражыванне ў канкрэтным населеным пункце. І ўсё. А калі я пайду да сяброў у суседнюю вёску ці паеду да бацькі, які жыве ў іншым баку раёна, што тады?

Бюракратыя і тут непераможная?

*Валерый МАРКЕЛАЎ, журналіст.*

Патрэбы розныя

## Растуць цэны на гарэлку
## Байчэй бурчыць на печы брага

*Самагон — наш нацыянальны напой. У нашым горадзе, вёсцы існуюць свае традыцыі, даўно правераныя метады яго выраблення.*

Як паведамілі мне ў раённым аддзеле міліцыі, папулярная гэта прамысловасць і на Астравеччыне. За першае паўгоддзе міліцэйскімі рэйдамі было выяўлена 90 фактаў самагонаварэння. Геаграфія па раёну тут шырокая. Для «сваіх патрэб» цэнуць моцную практычна на тэрыторыі кожнага сельскага Савета. Праўда, найчасцей у зводках міліцэйскіх Падольскі, Гудагайскі, Варнянскі.

Не пагарджаюць такім напоем і ў Астраўцы. Гоняць як у прыватных дамах, так і ў кватэрах. Займаюцца гэтай справай пенсіянеры, каб заплаціць за каня, беспрацоўныя, каб звесці канцы з канцамі і прыкарміць дзяцей. Ды і астатнія таксама маюць мноства праблем, што патрабуюць вырашэння пры напоўненай чарцы. Словам, патрэбы розныя. А пакуль яны ёсць, значыць і традыцыя гэта доўга будзе захоўвацца ў сэрцах нашых сучаснікаў, перадавацца з пакалення ў пакаленне.

*В. СІНІЦКАЯ.*

Спорт

## Знай нашых!

*МАЛАДЗЕЧАНСКІ РАЁН. Упершыню конегадоўляў і конным спортам у калектыўнай гаспадарцы «Палачаны» заняліся шэсць гадоў назад. А сёння тут ужо звыш 120 галоў коней тракененскай і гановерскай парод, якіх прадаюць не толькі па ўсёй Беларусі, але і за яе межы.*

У гаспадарцы створана свая конна-спартыўная школа пад кіраўніцтвам майстра спорту Уладзіміра Мікалаевіча Пятрова, у якой займаюцца пятнаццаць юнакоў і дзяўчат. Дарэчы, сярод іх і абодва сыны трэнера — Сяргей і Віктар Пятровы. Кандыдаты ў майстры спорту Сяргей Пятроў, Руслан Таптухін, Сяргей Юркоўскі і іншыя паспяхова выступаюць на розных рэспубліканскіх і міжнародных спаборніцтвах (у Польшчы, Германіі), неаднаразова займаючы прызавыя месцы.

Па выніках трох этапаў спаборніцтваў на кубак Беларускай асацыяцыі конепрома палачанская каманда ўпэўнена трымае другое месца з дзесяці, саступаючы толькі камандзе Навагрудка. На трэцім этапе, які праходзіў у Рэчыцы, палачанцы ўзялі тры першых месцы, адно другое і тры трэціх, пацвердзіўшы гэтым высокі клас падрыхтоўкі.

А на чацвёртым этапе, які праходзіў гэтымі днямі ў Палачанах, мясцовыя жакеі разлічваюць замацаваць і развіць свой поспех. Да дома, як кажуць, і сцены дапамагаюць. Дарэчы, гэта першае мерапрыемства такога размаху ў раёне.

*Валерый МАРКЕЛАЎ.*

# Праграма тэлебачання

## Понедельник, 10 июля
### Белорусское телевидение

17.00 Творческое объединение «Мой мир». Все обо всем. 17.20 Концерт оркестра народных инструментов Лидского музыкального училища. 18.00 АТН, Би-би-си, Си-эн-эн. 18.45 «Остановись, прислушайся...» Док.фильм. 19.00 На добрый лад. «Соседи». Передача из Гомеля. 19.20 Белорусский дом. Художественно-публицистическая программа. 20.00 Спортивный телекурьер. 20.20 Протокол. Международная программа. 20.40 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.35 «Год с Президентом». Док. фильм. 22.05 Интервью Президента Республики Беларусь Александра Григорьевича Лукашенко. 23.05 Музыкальный антракт. 23.20 День столетия. 23.25 «Любовью за любовь». Худ.фильм. 0.45 Под куполом Вселенной.

### 1 канал

5.00 Телеутро. 8.00, 11.00, 14.00, 23.30 Новости. 8.20 «Тропиканка». 9.10 Поле чудес. 9.55 Семь дней спорта. Футбол. 10.20 Мастерские России. 11.20 «ТАСС уполномочен заявить». 1-я серия. 13.00 Иванов, Петров, Сидоров... 13.35 Ждите ответа. 14.20 «Мир». 15.00 Мультфильм. 15.25 Звездный час. 16.05 «Элен и ребята». 16.30 Тет-а-тет. 17.00, 20.00 Время. 18.10 Час пик. 18.35 Угадай мелодию. 19.05 «Мы». 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.40 Встреча с А. Солженицыным. 21.00 «Вдовы». 21.55 Версии. 22.10 Гол. 22.40 Ситуация.

### Канал «Россия»

6.30 Время деловых людей. 7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести. 7.30 Звезды говорят. 7.35 Ритмика. 7.50 Требуются...требуются... 7.55 От нашего корреспондента. «Марлей - жизнь и смерть короля Регги». 8.25 «Убить шакала». Худ. фильм. 9.40 «Тебе одной плету венок...» Док. фильм. 10.05 «Сибирская галерея» Рудольфа Карягина. 10.30 Милицейская хроника. 10.40 Ура! Каникулы. «Бабушка Нонон и я». Мультфильм (Япония). 11.10 Телегазета. 11.15 Репортажи с мест. 15.05 Там-там новости. 15.20 Праздник каждый день. 15.30 Новая линия. 16.20 Спасение 911. 17.15 Купить - не купить. 17.25 Волейбол. Мировая лига. Финал. 18.25 Устами младенца. 19.25 Подробности. 19.35 «Закат солнца». Худ. фильм. Часть 2-я. 20.40 Репортер. 21.00 Момент истины. На вопросы А.Караулова отвечает В.Спиваков. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 «Океан». Худ. фильм (Италия, Испания, Великобритания). 2-я серия. Часть 1-я.

## Вторник, 11 июля
### Белорусское телевидение

7.35 Утренний коктейль. 7.50 Зеркало Си-эн-эн. 8.05 День столетия. 8.10 Финансовое время. 8.25 «Сенсация». Телесериал. 9.20 Мультфильмы. 9.50 Телевизионная биржа. 10.35 Протокол. Международная программа. 10.50 Авто-парк. 11.05 Телевизионный АРТ-клуб. «Молодечненская сакавіца-95». Часть 1-я. 11.45 Туробъектив. Путешествия, встречи, отдых. 12.05 Телевизионный АРТ-клуб. «Молодечненская сакавіца-95». Часть 2-я. 15.00 Новости. 15.10 «Хождение по мукам». Худ. фильм. 1-я серия «Сестры». 16.50 «Докажи, если любишь меня...»Мультфильм. 17.10 Пограничье. Передача из Гродно. 17.30 Уроки Н.Новожиловой. 18.00 АТН, Би-би-си, Си-эн-эн. 18.45 «Залив Петра Великого». Док. фильм. 19.00 Дедка за репку. Советы огородникам. 19.30 Портрет в интерьере. Председатель Республиканского комитета по делам молодежи Михаил Подгайный. 19.50 Экономикст. 20.00 «Лада ОМС» представляет: «Моя любовь, моя печаль». Телесериал. 20.30 Скрижали. Никита Муравьев. 20.40 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.35 Музыкальный антракт. 21.45 Студия «Политика». 22.00 Реклама. 22.10 «Сенсация». Худ. фильм. 23.05 Новости. 23.20 Музыкальный салон Элеоноры Езерской. «Франция...песня...» 0.10 Под куполом Вселенной.

### 1 канал

5.00 Телеутро. 8.00, 11.00, 14.00, 23.30 Новости. 8.20, 17.20 «Тропиканка». 9.15 Человек и закон. 9.50 Семь дней спорта. Баскетбол. 10.15 Мастерские России. 11.20 «ТАСС уполномочен заявить». 12.35 Культура вне границ. 13.00 Иванов, Петров, Сидоров... 13.35 Огород круглый год. 14.20 Телерадиокомпания «Мир». 15.00 Посмотри, послушай. 15.20 За Жар-птицей. 15.40 Между нами, девочками. 16.05 «Элен и ребята». 16.30 Джэм. 17.00, 20.00 Время. 18.10 Час пик. 18.35 Угадай мелодию. 19.05 Тема. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.40 Из первых рук. 20.55 «Сладкая женщина». Худ. фильм. 22.30 Версии. 22.50 «50x50». 23.55 Ночное ТВ.

### Канал «Россия»

6.30 Время деловых людей. 7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести. 7.30 Звезды говорят. 7.35 Ритмика. 7.50 Требуются... требуются... 10.05 «Зеркало Эрмитажа». Док. фильм. 10.15 Телегазета. 10.20 Милицейская хроника. 10.30 Непопулярная тема. 10.45 Ура! Каникулы. «Бабушка Нонон и я». Мультфильм (Япония). 11.15 Репортажи с мест. 15.05 Там-там новости. 15.20 Праздник каждый день. 15.30 Чудо-кисточка. 15.45 Никто не забыт. 15.50 Месяцеслов. 16.20 Новая линия. 16.50 Мультфильм. 17.15 Мини-футбол. 17.25 «Россия. Объяснение в любви». Премьера художественно-публицистического цикла. Фильм 7-й. 17.55 Торговый дом. «Ле монти». 18.20 L-клуб. 19.25 Подробности. 19.35 «Городок». Развлекательная программа. 20.10 «Монолог перед премьерой». В.Гергиев. 20.25 Шедевры мировой оперы. Д.Верди. «Аида». 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 Д.Верди. «Аида». Продолжение. 23.50 Экран криминальных сообщений.

## Среда, 12 июля
### Белорусское телевидение

7.35 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00 Зеркало Си-эн-эн. 8.15 Студия «Политика». 8.30 «Лада ОМС» представляет: «Моя любовь, моя печаль». Телесериал. 9.00 Скрижали. Никита Муравьев. 9.05 «Сенсация». Худ. фильм. 10.00 «Зорная ростань». Телевизионный конкурс молодых артистов эстрады. Финал. Передача 15-я. 11.05 Бон тон. Часть 1-я. 11.35 «Докажи, если любишь меня...» Мультфильм. 11.55 Телесябрына. 12.15 Видимо-невидимо. 15.00 Новости. 15.10 «Хождение по мукам». Худ. фильм. 2-я серия «18-й год». 16.50 «Докажи, если любишь меня...» Мультфильм. 17.10 «Романсы». Фильм-концерт. 17.30 Творческое объединение «Мой мир». Студия «Ч/Б». Хронические заболевания детей гепатитом. 18.00 АТН, Би-би-си, Си-эн-эн. 18.45 «За черным соболем». Док. фильм. 19.00 Музыка без границ. Музыкально-информационная программа. 19.40 «Крок». «Пять звезд». Телеигра. 20.30 SOS. 20.40 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.35 Музыкальный антракт. 21.45 День столетия. 21.50 Экономикст. 22.00 Реклама. 22.10 «Сенсация». Худ.фильм. 23.05 Новости. 23.20 Чемпионат мира по мотогонкам-95. Гран-при Италии. 23.50 Под куполом Вселенной.

### 1 канал

5.00 Телеутро. 8.00, 11.00, 14.00, 23.25 Новости. 8.20, 17.20 «Тропиканка». 9.15 В мире животных. 9.50 Семь дней спорта. Волейбол. 10.15 Мастерские России. 11.20 «ТАСС уролномочен заявить». Худ. фильм. 12.30 Хит-конвейер. 13.00 Иванов, Петров, Сидоров... 13.35 Пойми меня. 14.20 Телерадиокомпания «Мир». 15.00 Домисолькаю 15.20 Мультфильм. 15.50 Фан-клуб. 16.05 «Элен и ребята». 16.30 Тин-тоник. 17.00, 20.00 Время. 18.10 Час пик. 18.35 Угадай мелодию. 19.05 Э. Радзинский. «Загадки истории». 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.45 «Простофиля». Худ. фильм. 22.15 Жеребьевка Лиги чемпионов по футболу сезона 1995-1996 гг. 22.45 Версии. 23.05 За кулисами. 23.50 Ночное ТВ.

### Канал «Россия»

6.30 Время деловых людей. 7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести. 7.30 Звезды говорят. 7.35 Ритмика. 7.50 Требуются... требуются... 7.55 Ключевой момент. 8.05 Школьный вальс. 8.35 Мульти-пульти. 8.45 Телегазета. 8.50 «Санта-Барбара». Худ.фильм. 9.40 Крестьянский вопрос. 10.05 Площадь искусств.»Парижские премьеры». 10.35 Милицейская хроника. 10.45 Ура! Каникулы. «Бабушка Нонон и я». Мультфильм (Япония). 11.15 Репортажи с мест. 15.05 Там-там новости. 15.20 Праздник каждый день. 15.30 Чья сторона? 16.20 Дальний Восток. 16.50 Мультфильм. 17.15 «Россия. Объяснение в любви». Премьера художественно-публицистического цикла. Фильм 8-й. 17.40 На политическом Олимпе. 18.25 Своя игра. 19.25 Подробности. 19.35 «Санта-Барбара». Худ.фильм. 20.30 «Нос».Юмористическая программа. 21.05 Киноафиша. 21.15 В поисках литературы. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 «Океан». Худ. фильм. 2-я серия. 2-я часть. 23.35 Экран криминальных сообщений.

## Четверг, 13 июля
### Белорусское телевидение

7.35 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00 Зеркало Си-эн-эн. 8.15 День столетия. 8.20 «Сенсация». Худ.фильм. 9.15 «Крок». «Пять звезд». Телеигра. 10.05 Бон тон. Часть 2-я. 10.40 «Золотая лира». Хит-парад белорусской песни. Передача 7-я. 11.35 Уроки Н.Новожиловой. 12.05 «Докажи, если любишь меня...» Мультфильм. 12.25 Банка комиксов. Музыкально-юмористическая программа. 12.55 Бездельник. 13.15 Между нами, женщинами. 15.00 Новости. 15.10 «Хождение по мукам». Худ. фильм. 3-я серия «Хмурое утро». 16.50 Концерт хора ветеранов войны и труда г.Молодечно. 17.25 Мультфильмы. 18.00 АТН, Би-би-си, Си-эн-эн. 18.45 «Птицы на гнездах». Док. фильм. 19.00 «Жизнь и моя надежда - это ты, искусство». Фестиваль творчества инвалидов. Часть 2-я. 19.30 На музыкальных параллелях. Р.Вагнер. Пять стихотворений Матильды Везендонк. 20.00 «Лада ОМС» представляет: «Моя любовь, моя печаль». Телесериал. 20.30 Студия «Эксклюзив». Весы. 20.40 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.35 Музыкальный антракт. 21.45 Студия «Политика». 22.00 Реклама. 22.10 «Сенсация». Худ. фильм. 23.05 Новости. 23.20 Экономикст. 23.30 «Крок». «Большая Медведица». Кино и видео для молодежи. 24.00 Под куполом Вселенной.

### 1 канал

5.00 Телеутро. 8.00, 11.00, 14.00, 23.15 Новости. 8.20, 17.20 «Тропиканка». 9.10 Клуб путешественников. 9.55 Семь дней спорта. Теннис. 10.20 Мастерские России. 11.20 «ТАСС уполномочен заявить». 13.00 Иванов, Петров, Сидоров... 13.35 Пойми меня. 14.20 Телерадиокомпания «Мир». 15.00 Мультитроллия. 15.20 На балу у золушки. 15.40 Волшебный мир, или Синема. 16.05 «Элен и ребята». 16.30 ...До 16 и старше. 17.00, 20.00 Время. 18.10 Час пик. 18.35 Лотто-миллион. 19.05 Авторская программа В. Молчанова. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.40 Москва. Кремль. 21.05 «Джентельмен из Кокоди». Худ. фильм. 22.35 Версии. 22.50 В мире джаза. 23.35 Ночное ТВ.

### Канал «Россия»

6.30 Время деловых людей. 7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести. 7.30 Звезды говорят. 7.35 Ритмика. 7.50 Требуются... требуются... 7.55 Ключевой момент. 8.05 Ю.Домбровский. «Ручка, ножка, огуречик...» Телеспектакль. 8.50 «Санта-Барбара». Худ.фильм. 9.40 Крестьянский вопрос. 10.05 «Светильники Эрмитажа». Док. фильм. 10.15 Телегазета. 10.20 Милицейская хроника. 10.30 Торговый дом. 10.45 Ура! Каникулы. «Бабушка Нонон и я». Мультфильм (Япония). 11.15 Репортажи с мест. 15.05 Там-там новости. 15.20 Праздник каждый день. 15.30 Полчаса на чудеса. 16.20 Новая линия. 16.50 Мультфильм. 17.15 Наш сад. 17.45 Ваше право. 18.00 Я - лидер. 18.25 Караоке по-русски. 19.25 Подробности. 19.35 «Санта-Барбара». Худ. фильм. 20.30 В мире авто- и мотоспорта. 21.05 Чрезвычайный канал. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг.

## Пятница, 14 июля
### Белорусское телевидение

7.35 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00 Зеркало Си-эн-эн. 8.15 Студия «Политика». 8.30 «Лада ОМС» представляет: «Моя любовь, моя печаль». Телесериал. 9.00 «Мне снилась музыка...» Фильм-концерт. 9.30 «Сенсация». Худ.фильм. 10.25 Ситуация. Почти детективная викторина. 11.20 Театр песни Я.Поплавской и А.Тихоновича. 12.20 Детский экран. «Маринка, Янка и тайны королевского замка». Худ.фильм. 13.45 Теннис. Кубок Дэвиса. Беларусь - Эстония. 14.45 «Тема для органа». Телефильм. 15.00 Новости. 15.10 «Мертвый сезон». Худ.фильм. 1-я и 2-я серии. 17.20 Мультфильм. 17.30 К юбилею журнала инвалидов «Надежда». 18.00 АТН, Би-би-си, Си-эн-эн. 18.45 «Пришелец». Док. фильм. 19.00 Тэлесябрына. 19.20 Диалоги. Алексей Парфенков (фристайл). 19.40 «Вера, Надежда, Любовь». Встреча с Владимиром Гостюхиным и Михаилом Пташуком. 20.20 «Подарок». Белорусско-американская передвижная радиометрическая лаборатория «Беларусь». 20.40 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.35 Музыкальный антракт. 21.45 Экономикст. 21.55 SOS. 22.05 Акколада. Музыкальная программа. 22.40 Вечерний иллюзион. «Попутчик». Худ.фильм (США). В перерыве (23.00) - Новости. 0.35 Под куполом Вселенной. 0.40 Теннис. Кубок Дэвиса. Беларусь - Эстония.

### 1 канал

5.00 Телеутро. 8.00, 11.00, 14.00, 23.45 Новости. 8.20, 17.20 «Тропиканка». 9.10 «Летние игрища». 9.40 Сорока. 9.50 Семь дней спорта. Хоккей. 10.20 Мастерские России. 11.20 «ТАСС уполномочен заявить». 12.30 Компас». 13.00 Иванов, Петров, Сидоров... 13.35 Пойми меня. 14.20 Телерадиокомпания «Мир». 15.00 «Белый Клык». 15.35 Новая реальность. 16.05 Рок-урок. 17.00, 20.00 Время. 18.15 Дикое поле. 18.30 Человек и закон. 19.00 Поле чудес. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20ю45 «Вдовы». 21.40 Версии. 21.55 Взгляд. 22.50 Музобоз. 23.30 Человек недели. 00.05 Ночное ТВ. «Частное лицо».

### Канал «Россия»

6.30 Время деловых людей. 7.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести. 7.30 Звезды говорят. 7.35, 17.45 «Это начиналось так...» К 5-летию со дня основания Всероссийской государственной телерадиокомпании. 7.55 Момент истины. На вопросы А.Караулова отвечает В.Спиваков. 8.50 «Санта-Барбара». Худ.фильм. 9.40 Крестьянский вопрос. 10.05, 11.10, 12.55, 15.15, 15.55, 16.45, 18.50, 22.45 Я люблю РТР. 10.10 Милицейская хроника. 10.20 Торговый дом. 10.35 Ура! Каникулы. «Бабушка Нонон и я». Мультфильм (Япония). 11.15 «Белое солнце пустыни». Худ. фильм. 12.45 Месяцеслов. 13.20 «Тэфи-94». Вручение призов Российской академии телевидения. 15.20 Путешествие с «Репортером». 15.40 Там-там новости. 16.20 «Дом на острове». Видеофильм. 16.50 Дисней по пятницам. «Зорро». Худ. фильм. 18.05 Пресс-конференция, посвященная 5-летию со дня основания Всероссийской государственной телерадиокомпании. 18.35 Горячая десятка. 19.25 Подробности. 19.35 «Санта-Барбара». Худ.фильм. 20.30 Маски-шоу. 21.05 Магия Дэвида Копперфильда. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.50 «Над темной водой». Худ.фильм.

## Суббота, 15 июля
### Белорусское телевидение

8.00 Экономикст. 8.10 Зеркало Си-эн-эн. Детский сеанс 8.30 «Лулу - ангел цветов». Мультсериал. 9.00 «Буковка». 9.30 «Детство со взрослыми глазами». Ждановичский детский дом. 9.55 Здоровье. 10.15 «Судьба моя и надежда - это ты, искусство». Телефестиваль творчества инвалидов. 10.30 «Крок». «Живая земля». Экологическая программа. 10.50 «Кайстра». Развлекательная программа. 11.20 Адвокат. Права пассажиров и железнодорожников. Прямая линия. 12.15 Многозвучие. 12.45 «Четвертое измерение». Духовно-просветительский канал. 13.45 Телеклуб «Гав-гав». 14.05 Летний антракт. Закрытие театрального сезона в Минске. 14.45 Ночь на Ивана Купалу. Репортаж о празднике в Минске. 15.45 «Тропическая жара». Худ.фильм. 16.45 Теннис. Кубок Дэвиса. Беларусь - Эстония. 18.00 Футбол. Кубок Интертото. «Днепр»(Могилев) - «Канн» (Франция). В перерыве (18.45) - Финансовое время. 19.55 SOS. 20.00 Международные спортивные новости. 20.35 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.35 Дневник фестиваля западнополесской эстрадной песни «Етвызь». 21.55 «Звезды» на экране. Вячеслав Шалевич в худ.фильме «Прощение». 23.30 Видимо-невидимо. 0.30 Под куполом Вселенной.

### 1 канал

5.00 Телеутро. 8.00, 14.00, 22.50 Новости. 8.20 Зов джунглей. 8.50 «Секреты моего лета». 9.25 Утренняя почта. 10.00 Смак. 10.15 Здоровье. 10.50 Провинция. 11.20 Бомонд. 11.40 «Старики на уборке змеля». Худ. фильм. 13.25 Зеркало. 14.20 Большие гонки. 14.45 «Воспоминания о Большом зале». И. Андронников. 15.35 В мире животных. 16.10 Счастливый случай. 17.00, 20.00 Время. 17.25 Смехопанорама. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.45 «Вдовы». 21.40 «Кумиры, кумиры...» Элтон Джон. 22.20 У всех на устах. 23.10 Ночное ТВ.

### Канал «Россия»

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Вести. 7.25 Звезды говорят. 7.30 Мульти-пульти. 7.40 Продленка. 7.55 От «винта». 8.10 Мировая деревня. 8.40 Парламентская неделя. 9.25 Пилигрим. 10.10 Как



жить будем? 10.55 «Мушкетеры двадцать лет спустя». Худ. фильм. 2-я серия. 12.15 От А до А: от «Аполлона» и «Союза» к «Альфе». 12.30 Астрология любви. С.Курехин. 13.20 «Ночь на перекрестке». Худ. фильм (Франция). Часть 1-я. 14.05 Де факто. 14.20 В мире животных. 15.15 Незанятая вакансия. Эдвард Олби. Авторская программа В.Вульфа. 15.45 Клип-антракт. Линда. 15.55 Футбол. Чемпионат России. «Торпедо»(Москва) - «Локомотив» (Москва). 18.00 Аншлаг и К. 19.25 Фильм Д.Асановой «Милый, дорогой, любимый, единственный...» 20.40 Мультфильм. 21.05 Совершенно секретно. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 Программа «А». 23.25 Мультфильм для взрослых. 23.35 Ночной разговор.

## Воскресенье, 16 июля
### Белорусское телевидение

8.00 Мультфильм. 8.05 Чемпионат Беларуси по воднолыжному спорту. 8.35 «Человек из стали». Телеочерк. Детский сеанс 8.55 Студия «Колыбельная». «Все дело в шляпе». 9.25 Телебом. Шоу-школа. 10.05 «Конан и его молодые бойцы». Мультсериал (США). 10.35 Туробъектив. Путешествия, встречи, отдых. 10.55 Уроки Н.Новожиловой. 11.25 Вас вызывает Спортландия. Товарищеская встреча школьников Беларуси и Узбекистана. 12.15 Все нормально, мама! Развлекательная программа. 12.45 Авто-парк. 13.00 Арсенал. Программа для армейцев. 13.30 Теннис. Кубок Дэвиса. Беларусь - Эстония. 14.45 Победитель. Спортивно-развлекательная программа. 15.05 Творцы. Наследие Якуба Коласа. 15.35 Театр в кресле. Произведения новой белорусской драматургии. 16.15 «Золотые ключи». Телефестиваль народного творчества. Конкурсная программа. Часть 1-я. 17.50 Стиль. 18.10 «Экспедиция». Научно-популярный сериал. 18.45 Бездельник. 19.05 Королевская охота. 19.45 Мультфильм для взрослых. 20.00 Резонанс. 20.45 Колыбельная. 21.05 «Карамболь». Ток-шоу с участием Маши Шукшиной. 21.35 Реклама. 21.45 «Синема» представляет: «Человек-слон». Худ. фильм (США, Великобритания). 24.00 Под куполом Вселенной. 0.05 Теннис. Кубок Дэвиса. Беларусь - Эстония.

### 1 канал

6.30 Телеутро. 8.00, 14.00, 23.20 Новости. 8.20 С утра пораньше. 8.50, 16.30 Мультфильмы. 9.15 Пока все дома. 9.45 Утренняя звезда. 10.30 «Полигон». 11.05 Всемирная география. 11.50 Вся Россия. 12.15 Играй, гармонь! 12.45 В эти дни 50 лет назад. 13.00 Под знаком «Пи». 13.45 Спорт в обед. 14.20 Квартет Бородина. 15.10 Клуб путешественников. 16.00 Америка с М. Таратутой. 17.00 Время. 17.20 «Золотой кадр». А. Миронов. 18.35 «Один на один». 19.05 «Жозефа». Худ. фильм. 21.00 Воскресенье. 21.50 «Вдовы». 22.45 Любовь с первого взгляда.

### Канал «Россия»

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Вести. 7.25 Звезды говорят. 7.30 Мульти-пульти. 7.50 Первый дубль. 8.05 Золотой ключик. 8.20 Футбол без границ. 9.05 Доброе утро. «Завтрак для чемпионов». 9.35 Аты-баты... 10.05 Консолидация. 10.10 Русское лото. 10.55 «Мушкетеры двадцать лет спустя». Худ. фильм. 3-я серия. 12.15 Звезды мирового экрана. 12.45 Ваш партнер. «Российские железные дороги». 13.20 «Ночь на перекрестке». Худ. фильм (Франция). Часть 2-я. 14.10 Клип-антракт. Ж.Добровольская. 14.15 Параллели. 14.30 Шестое чувство. 14.55 «Карнавал в Лужниках». На празднике газеты «Московский комсомолец». 15.40 Танц-экспресс. 15.55 Чемпионат мира по автогонкам «Формула-1». Гран-при Великобритании. 18.00 Волшебный мир Диснея. «Русалочка», «Новые приключения Винни Пуха». 19.25 «Безжалостные люди». Худ. фильм (США). 21.05 Коробка передач. 21.25 У Ксюши. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 Тихий дом.

# Маладзечанскае аддзяленне N6423 Ашчадбанка Рэспублікі Беларусь запрашае ў свой новы будынак па вул. Б. Хмяльніцкага, 26-а







**В. М. СВЯНЦІЦКАЯ,**
*намеснік кіраўніка аддзялення N6423 Ашчадбанка:*

## Гарантыі

— вось асноўны аргумент на карысць нашых укладчыкаў. Нездарма колькасць жадаючых адкрыць разліковыя і асабовыя рахункі, зрабіць грашовыя ўклады, набыць дэпазітныя сертыфікаты ў аддзяленні Ашчадбанка і яго філіялах з кожным днём расце. Сёння я рада паведаміць, што нашымі кліентамі з'яўляюцца ўжо больш 140 тысяч чалавек. Гэтыя людзі, нягледзячы на ўсе складанасці часу, давяраюць нам. І яны зрабілі правільны выбар. Бо сёння ні адзін з камерцыйных банкаў не можа даць сваім укладчыкам дзяржаўную гарантыю захавання іх грашовых зберажэнняў.

Спадзяюся, што выгаднасць супрацоўніцтва з намі хутка зразумеюць і многія іншыя маладзечанцы. Кола нашых кліентаў, упэўнена, будзе пашырацца.

**М. В. ДЗЕМЕШ,**
*галоўны бухгалтар аддзялення N6423 Ашчадбанка:*

## Надзейнасць

ва ўсе часы існавання банкаўскай сістэмы з'яўлялася і цяпер з'яўляецца той важнай рысай, якой звычайна характарызуюцца ўстановы салідныя, аўтарытэтныя. У рабоце іх кліент упэўнены, як у самім сабе. Без перабольшання адзначу, што да такіх устаноў можна аднесці і наша аддзяленне Ашчаднага банка. Мы надаём шмат увагі правільнасці афармлення ўсіх паступаючых дакументаў, дакладнасці і хуткасці іх апрацоўкі і перадачы па міжбанкаўскай камп'ютэрнай сетцы, своечасоваму налічэнню працэнтаў на ўклады. Нашы ўкладчыкі могуць быць спакойныя: мы іх не падвядзём. Тыя жыхары горада і раёна, хто цяпер з'яўляецца кліентам аддзялення N6423 Ашчадбанка, у гэтым пераканаліся ўжо. А тых, хто яшчэ ў нечым сумняваецца, запрашаю наведаць наш новы будынак і ва ўсім пераканацца самім.

**Паважаныя прыватныя прадпрымальнікі, кіраўнікі прадпрыемстваў усіх форм уласнасці!**

Ва умовах усё больш цяжкага становішча ў камерцыйнай банкаўскай сістэме рэспублікі **Ашчадны банк прапануе вам гарантаванае і выгаднае супрацоўніцтва і адкрывае для вас разліковыя і бягучыя рахункі.**

***Тэл. для даведак: 6-66-25, 6-66-37, 6-66-23.***

## Клопат аб кліентах



аддзялення N6423 Ашчадбанка і ўсіх тых, хто сюды наведваецца, адчуваеш адразу, як толькі пераступаеш парог новага будынка. Тут прасторна, светла. Прыгожа аформлены інтэр'ер. Направа пойдзеш — трапіш у залу, дзе абслугоўваюцца юрыдычныя асобы: прадпрыемствы, арганізацыі розных форм уласнасці, а таксама прадпрымальнікі, якія дзейнічаюць без утварэння юрыдычнай асобы і маюць тут свае разліковыя рахункі. Налева пойдзеш — апынешся ў вялікай зале, дзе абслугоўваюцца ўкладчыкі, прымаюцца камунальныя і іншыя плацяжы. Усё зроблена для таго, каб наведвальніку было тут зручна і ўтульна. Але, магчыма, нехта жыве ў іншым канцы горада і яму далёка сюды дабірацца, каб, атрымаць свае грошы з уклада. Аддзяленне N6423 Ашчадбанка ў такім выпадку прапануе звярнуцца ў любы бліжэйшы з яго філіялаў і атрымаць іх. Пры сабе трэба мець усяго толькі ашчадную кніжку з рэштkам уклада і пашпарт. Тут жа, не адыходзячы, як кажуць, ад касы, можна аформіць даверанасць або завяшчанне па ўкладу. Гэтыя паслугі прадастаўляюцца кліентам аддзялення бясплатна.

**Ашчадны банк заўсёды да вашых паслуг і ён разам з вамі!**

## Мы прапануем больш за 80 відаў паслуг,

**у тым ліку:**

- Разлікова-касавае абслугоўванне юрыдычных і фізічных асоб, адкрыццё валютных рахункаў юрыдычным асобам;
- Купля і продаж замежнай валюты, у тым ліку безнаяўным шляхам;
- Розныя формы захавання грашовых сродкаў насельніцтва;
- Аперацыі з каштоўнымі паперамі і іх захаванне;
- Ажыццяўленне разлікаў і пераводаў па даручэнню кліентаў;
- Прыём камунальных, падатковых, страхавых і іншых плацяжоў;
- Крэдытаванне насельніцтва і юрыдычных асоб.

**Інфармацыя аб рэжыме работы аддзялення N6423 Ашчадбанка і яго філіялаў, тэлефоны для даведак.**

| NN філіяла | Час работы з кліентамі | Абедзенны перапынак | Час работы ў суботу | Тэлефон | Адрас (вул.) |
|---|---|---|---|---|---|
| 6423 | 9.30-19.00 | 14.00-15.00 | 9.30-19.00 | 6-66-21 | Хмяльніцкага, 26а |
| 013 | 9.30-19.30 | 14.00-15.30 | 9.30-19.30 | 6-48-01 | Шчорса, 11 |
| 023 | 10.00-19.30 | 14.00-15.00 | 10.00-19.30 | 7-12-68 | Я. Купалы, 130 |
| 045 | 10.00-19.30 | 14.00-15.00 | 10.00-19.30 | 5-06-35 | В. Гасцінец, 74 |
| 048 | 11.00-18.30 | 13.30-15.00 | 9.00-12.00 | 5-34-33 | Шчорса, 34 |
| 049 | 9.30-19.00 | 14.00-15.00 | 9.30-19.00 | 7-05-81 | Садовая, 8 |
| 052 | 11.00-18.15 | 14.00-15.00 | 10.00-13.15 | 7-03-17 | В. Гасцінец, 38 |
| 054 | 11.00-18.00 | 13.30-14.30 | 10.30-13.45 | 5-45-11 | Металістаў, 7 |
| 055 | 11.00-18.00 | 13.30-14.30 | 10.30-13.45 | 5-17-74 | В. Гасцінец, 46 |
| 056 | 9.00-18.30 | 13.30-14.30 | 9.00-18.30 | 6-07-51 | В. Гасцінец, 121 |
| 057 | 9.30-19.00 | 14.00-15.00 | 9.30-19.00 | 7-18-07 | Прытыцкага, 13 |



## Сучаснае абсталяванне, кваліфікаваныя кадры

забяспечваюць высокі ўзровень якасці абслугоўвання кліентаў аддзялення N6423 Ашчадбанка. Прычым, нават ва ўмовах самага актыўнага іх наведвання банка. Гэта не проста словы. Кожнае рабочае месца бухгалтара, кантралёра, касіра камп'ютэрызавана, аснашчана іншай высокадакладнай лічыльнай тэхнікай. Вось чаму магчымасць узнікнення чэргаў у час афармлення дакументаў у абедзвюх аперацыйных залах зведзена да мінімуму.

Выключаны затрымкі і з перадачай інфармацыі па міжбанкаўскай камп'ютэрнай сетцы. Тыя дзелавыя людзі, хто мае справу з аддзяленнем N6423 Ашчаднага банка, заўсёды ўпэўнены: іх плацяжы будуць праведзены своечасова і дакладна.

**Нагадаем: Ашчадны банк — адзіны банк, які абслугоўвае ўсё насельніцтва рэспублікі!**

**РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА N11; 7.07.95-13.07.95**
**Заснавальнікі:** рэдактарат, ЗАТ «Інтэрмаркет», фірма «Фэварыт». **Пасведчанне** N1091. **Выдавец:** рэдакцыя «Рэгіянальнай газеты». **Рэдактар:** Аляксандр МАНЦЭВІЧ

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. **Тыраж** 7000 экз. **Цана 500 рублёў.**
**АДРАС ДЛЯ ПІСЬМАЎ: 222310, Маладзечна-7, а/с 1607**
**АДРАС РЭДАКЦЫІ:** 222310, Маладзечна, вул. Хмяльніцкага, 22, фірма «Фаварыт», «РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА».
**ТЭЛЕФОНЫ:** у Маладзечне 52953, тэл./факс у Вілейцы 5-60-73

**РЭКЛАМА.** Базавая стаўка 7500\рублёў за 1 кв. см. Прадугледжана сістэма скідак. Расцэнкі сапраўдныя да 31 ліпеня 1995 года. Разліковы рахунак N 468704 ФАКБ «ПОИСК» у Маладзечне, код 115, атрымальнік рэдакцыя «РГ»
Аддрукавана з арыгінал-макета ў друкарні «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11
**Заказ №** 799 Падпісана ў друк 6.07.95